Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асо...




№ 14—(54). Вільня, 14 красавіка 1928 году.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $1/2$ — 65, за $1/4$—35, за $1/8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |


## Беларускія паслы у Сойме.

У новым Сойме аказалася меней беларускіх паслоў, чымся ў папярэднім. Але, апрача таго, значэньне іх у соймавай працы і ў арганізацыйнай беларускай рабоце па-за Соймам можа аказацца вельмі малым дзеля таго, што яны разьбіліся на тры групы і ня будуць выступаць разам і згодна, як у Сойме, так і за ягонымі сьценамі, на мясцох. У папярэднім Сойме Беларускі Пасольскі Клюб мог мець нейкае значэньне, калі-б ня стаў адразу на нерэальны опозыцыйны грунт да ўсякіх пачынаньняў ураду ў беларускім пытаньні.

Цяпер-жа бачым такія групіроўкі беларускіх паслоў—„Змаганьне за інтарэсы сялян і работнікаў“ (Дварчанін, Гаўрылік, Грэцкі, Стагановіч), Беларускія хадэкі і адзін сельсаюзьнік (Каруза, Стэповіч, Юхневіч і Яраміч) і 3-я група: Янка Станкевіч і Валынец. „Змаганьне“ вышла з выбараў, як найбольш радыкальная група, блізкая па ідэолёгіі да б. Грамады і камуністых, сувязь з якімі будзе падтрымліваць і можа знайсьціся пад іх уплывамі. Адразу можна сказаць, што гэтыя паслы, калі не парвуць свае нелегальные сувязі з антыдзяржаўнай і дэмагогічнай камуністычнай фракцыяй у Сойме, нічога карыснага для беларускіх народных масаў ня зробяць, апрача аднае шкоды і няшчасьця, а ў Сойме будуць прыхвасьнямі камуністых, ад іх залежнымі і імі-ж кіраванымі. Камуністыя цераз паслоў са „Змаганьня“ будуць далей весьці сваю правакацыйную работу сярод беларускага сялянства, якое ізноў будзе плаціць за гэта сваімі сьлёзамі і сынамі, якіх камуністыя хацелі-б пасадзіць у турмы і на зьдзекі.

Хадэкі і адзіны сельсаюзьнік Яраміч увайшлі ў блёк з украінцамі, творачы украінска-беларускі клюб. Гэтая памешаная 18-ка (бяз жыдоў і немцаў) таксама нічога добрага беларусам даць ня можа. Украінцы адразу задэкляравалі сябе прадстаўнікамі вялікае Украіны, аб'явіўшы сябе . . . гасьцямі ў польскім Сойме, дзе будуць заўсёды опозыцыянэрамі для самае опозыцыі, каб паказаць сваё імкненьне да ўтварэньня Незалежнае Украіны з 40 мільённым народам. Блага ці добра робяць украінцы паслы—гэта іхняя справа. Адно можна сказаць, што рэальнае карысьці для украінскага народу, падзеленага і прыгнечанага Масквою, яны не дадуць. Украінцы ўва многа разоў сільнейшыя за нас і лікам, і эканамічна, і культурна—ім гэткая пазыцыя украінскіх паслоў вялікай шкоды прынамся ня дасьць. Затое беларускія паслы ня маюць права марнаваць усе магчымасьці палепшаньня долі і палажэньня свайго народу, паслаўшага іх у Сойм. Тымчасам, злучыўшыся з украінцамі, якія заўсёды прынцыпова будуць галасаваць проціў неабходных і патрэбных для жыцьця Дзяржавы законаў, без якіх нельга сабе прадставіць ладу і парадку ў Дзяржаве, і робячы тое самае, што сябры украінцы, гэтая беларуская 4-ка—хадэкі і сельсаюзьнік Яраміч, выключаюць магчымасьць правядзеньня якіх-колечы законаў, карысных для беларускага адраджэнскага руху. Для сваіх празыцыяў гэтыя паслы ня знойдуць ніколі большасьці ў Сойме дзеля „жанімства“ з украінскім клюбам.

Два паслы Я. Станкевіч і Ф. Валынец, якія дагэтуль ходзяць самапасам, астануцца толькі фігурантамі, бо ня маючы за сабою падтрыманьня ніякай пасольскай групы ня здольны будуць праявіць якое-колечы дзейнасьці на грунце Сойму, дзе справы вырашаюцца галасаваньнем і большасьцю галасоў.

Усё гэта добра разумеюць самі паслы-беларусы. А разумеючы павінны зрабіць вывад з палажэньня і злучыцца ў адну пасольскую беларускую фракцыю, якая-б мела разьвязаныя рукі і свабоду дзеяньня ў Сойме, без залежнасьці ад тых ці другіх соймавых групаў. Але загадзя можна сказаць, што вельмі многа труднасьцяў спаткае тых беларускіх паслоў, якія-б у пачуцьці свайго абавязку перад выбаршчыкамі і народам, а таксама адказнасьці перад гісторыяй, захацелі-б пайсьці на ўтварэньне аднаго беларускага пасольскага клюбу. Мы проста ня верым у гэта.

Тымчасам абставіны палітычнага жыцьця, жаданьне ўсяго беларускага грамадзянства якраз ідуць па тым шляху, каб урэшце беларусы паслы рабілі нацыянальную беларускую палітыку і работу, а не аддавалі сваіх сілаў і высокага палажэньня прадстаўнікоў народу на ўслугі тых ці іншых палітычных арганізацыяў.

Але мала яшчэ ўтварыць адзін пасольскі клюб. На беларускіх землях, беларусы жывуць побач з палякамі, якія выслалі ў Сойм сваіх прадстаўнікоў. Усе аднолькова—палякі і беларусы чакаюць ад сваіх паслоў рэальнае працы, якая-б памагла выбаршчыкам палепшыць сваё жыцьцё ў эканамічнай і культурнай яго галіне.

Патрэбы нашага сялянства бяз розьніцы таго, за каго яно сябе ўважае, аднальковыя, і паслы палякі з нашых земляў ня могуць ня браць іх пад увагу. Дык ізноў само жыцьцё наказвае беларускім паслом умець знайсьці супольны язык з усімі пасламі з беларускіх земляў, якія разумеюць і прызнаюць слушныя патрэбы беларускага насельніцтва, і разам думаць і працаваць над палепшаньнем долі нашага народу.

Толькі такім шляхам здолеюць беларускія паслы апраўдаць усе тыя надзеі, якія пакладае ў іх народ, і выпаўніць хоць часьць абяцанак, даваных сваім выбаршчыкам у часе выбарнае кампаніі.

Астаючыся разьбітымі на тры нічога ня значачыя групы, бяз супольнае працы з краёвымі пасламі палякамі, беларускія паслы дашчэнту страцяць давер'е свайго народу, які мае так многа патрэбаў і так многа спадзяецца ад сваіх прадстаўнікоў у Сойме.

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.**

Рэдакцыя зварочваецца да сваіх падпісчыкаў з просьбай не адкладаць высылкі падпісных грошай за газэту, у выпадку неатрыманьня падпіскі далейшая высылка „Беларускага Дня“ будзе стрымана.

## Пралесачка-красачка.

Скромная пралесачка,
Першая, каханая,
Вясновая кветачка,
Доўга так чаканая.

З моху цёмнай просіні
Глянула цудовая,
Між сьлядамі восені,
Красачка вясновая.

Пралесачку-казачку
Мілую, жаданую,
Вясновую красачку
Клікалі чаканую

Сьпевы жаўруковыя,
Трэлі з пералівамі,
Звонкія, жыцьцёвыя,
Што зьвіняць над нівамі.

Неба васільковае,
Хмаранькі пярыстыя,
Сонейка вясновае,
Косанкі ірдзістыя.

Ручаёчкі шумныя,
Дый зачараваныя,
Вербалозы сумныя,
У пух-бель прыбраныя.

Сасоначкі стромкія,
Быццам задумлёныя,
Бярозанькі тонкія,
Сумныя, стамлёныя.

Ветрыку пралётнага
Цалункі маўклівыя,
Радасна-залётныя,
Шэпты жартаўлівыя.

Нівы нашы родныя,
Клікалі пралесачку,
Прасторы свабодныя,
Заклікалі кветачку.

Вочкамі цудовымі,
Маленькая казачка,
Глянула вясновая
Пралесачка-красачка.

*Вітэблянін.*

## Што такое МОПР.

Ад самага пачатку свае работы ў Расеі, камуністыя крычаць аб тым, што яны імкнуцца да рэвалюцыі ўва ўсім сьвеце, якую абяцалі зрабіць у вельмі хуткім часе. Узяўшы ў свае рукі ўладу і панаваньне над вялікім краем, маскоўскія дыктатары-камуністыя перад усім пасадзілі ў турмы і парасстрэльвалі ўсіх б. сваіх таварышоў соцыялістых, якія не захацелі ўпісацца ў камуністычную партыю і крытыкавалі толькі бальшавіцкія парадкі.

Дзесяткі тысячаў быўшых рэвалюцыянэраў, якія разам з некаторымі сяньняшнімі панамі ў Маскве змагаліся за правы і свабоду для прыгнечаных народаў Расеі, згінулі ў бальшавіцкіх турмах. Бальшавікі не прызнаюць права думаць інакш, чымся на гэта ёсьць прыказ ад цэнтру камуністычнае арганізацыі і за самую думку, за слова расстрэльвалі направа і налева кожнага, асабліва-ж нішчылі тых, хто змагаўся з царызмам. І ні ў адным краі ня згінула столькі рэвалюцыянэраў, тых, хто адбыў за цароў катаргі і прайшоў праз турмы, як бачым мы гэта ў бальшавікоў, якія называюць сябе рабоча-сялянскай уладай. Такім чынам першым крокам да сусьветнай рэвалюцыі было тое, што бальшавікі зьнішчылі ўсіх рэвалюцыянэраў у Расеі.

Але ўсё-ж такі яны не перасталі гаварыць аб тым, што сусьветная (на ўсём сьвеце) рэвалюцыя хутка будзе, што яны памагаюць яе зрабіць і што тады расейскі селянін і работнік будзе жыць добра і свабодна. А пакуль яшчэ гэтай рэвалюцыі ўсюды няма, і сяляне і работнікі ў Расеі павінны цярпець біду, даваць працу за дарма і вялізарныя падаткі, бо патрэбны-ж грошы на сусьветную рэвалюцыю.

Бальшавікі пры помачы гэтых грошай, сьцягваных сілай ад сялян, якія змушаны аддаваць апошні пуд збожжа, стараюцца пашыраць камунізм ува ўсём сьвеце. Яны аплачваюць усюды камуністых, даюць грошы на камуністычныя яўныя і ўкрытыя, легальныя і нелегальныя часопісі, але за гэта наказваюць рабіць толькі такую работу, якая карысная і патрэбная Маскве і расейскай камуністычнай палітыцы. Калі-ж у другім нейкім краі мясцовыя камуністыя асьмельваюцца крытыкаваць маскоўскіх прарокаў, дык за гэта на іх сыплюцца кары аж да сьмерці ўключна.

Прыкладам ёсьць украінскі камуністы Пашчук, б. пасол у Сойме. Пакуль быў верны Маскве, жыў і працаваў у Польшчы, але вось ён пазнаў усю нягодную работу маскоўскіх камуністых і абʼявіў, што парывае з імі. Дык яго проста спраталі са сьвету.

Бальшавікі зʼарганізавалі г. зв. „Мопр“ — Міжнароднае Таварыства Помачы Рэвалюцыянэрам. Гэтае Таварыства кіруецца маскоўскімі камуністымі і разам з III-ім чырвоным Інтэрнацыяналам праводзіць пляны маскоўскага расейскага ўраду, хоць бальшавікі ў сваіх заявах ня раз даказвалі незалежнасьць свайго ўраду ад III інтэрнацыяналу і самадзельнасьць Мопру. Мопр паводле афіцыяльнае свае праграмы мае на мэце памагаць рэвалюцыянэрам ува ўсім сьвеце, асабліва тым, якія адбываюць кары ў турмах. Помач вязьням вельмі добрая справа і зьяўляецца абавязкам кожнага, бо ніхто, як вязьні, так не патрабуе помачы і апекі з боку грамадзянства.

Але так ужо вядзецца, што бальшавікі паганяць найчысьцейшыя і найлепшыя справы, калі возьмуць іх у свае рукі. Замест абяцанай свабоды далі найгоршую палітычную няволю, бо дыктатуру невялікае групы людзей, найчасьцей самага горшага гатунку — з вуліцы бадзяк, б. галубятні-

---

БАЯН.

## Сарваная краска.

### I.

Вечарэла... Сонца хавала свой агністы круг за зялёнаю сьцяной бярэзінаў, праз галіны якой пранікалі апошнія праменьні і расьсьцілаліся па ўсеянай краскамі сенажаці. У паветры яшчэ разьліваліся зычныя галасы жаваранкаў, якія канчалі сваю дзенную музыку.

На сенажаці, каля рэчкі, віднелася смуглая постаць маладой дзяўчыны, якая зьбірала краскі да абраза Маевай Божай Маці і сьпявала пераліўным голасам, бы той салавейка, сумную песьню, мэлёдыя якой трапляла да сэрца і ўскалыхвала ўсе жывыя струны душы:

А ўчора араў, сягоньня араў!
А хто-ж табе, малады-малойчык,
Валы запрагаў?
Запрагала яна, дзяўчына мая,
Чорныя бровы, белая румяна
Красачка мая!

Звонкі яе галасок лунаў у паветры, як хоры жаўранкаў у блакітным небе, а яна сьпявала далей:

Учора касіў, сягоньня касіў
А хто-ж табе, малады-малойчык,
Есьці прынасіў?
Прынясла яна, дзяўчына мая.
Чорныя бровы белая румяна
Красачка мая!

Апошнія словы гэтае песьні адбіваліся рэхам і нясьліся далёка-далёка па ўсенькай сенажаці.

— Добры вечар, панна Зоська! — загучэў голас маладога, прыгожага хлапца Янкі, які пабач дарогай ішоў з сахою з поля.

— Ах, нягоднік! Толькі напалохаў! — прамовіла ўскочыўшы Зоська, бы тая спуджаная птушка.

— Ну, Зоська! Што мне за гэта будзе, дык нешта скажу табе цікаўнае, аб чым ты наʼт і не падумала сягоньня.

— Эй, ня цікава мне, ведаю ўжо аб гэтым шчасьці, што Якуб ужо дайшоў да ладу з маімі бацькамі і яны згадзіліся выдаць мяне за яго, ведаю! — прамовіла Зоська, круцячы ражок хвартуха ў руках.

— Ды не аб тое! Аб гэткім шчасьці я стараўся-б лепш замаўчаці, але на думцы маю нешта важнейшае...

— Ды што? Кажы хутчэй, бо мяне і запраўды ўжо зацікавіла, што там такое важнае?...

— Ага! Ня будзь такая скорая! Перш, скажы, што мне дасі за гэта, а тады ўжо скажу ўсё

ваў і зладзеяў. Замест палёгкі работнікам стварылі ім напоўгалоднае жыцьцё, безрабоцьце і няволю, якое ня мелі за часоў царскіх. Даўшы нібы зямлю сялянам, адбіраюць ад іх апошні пуд збожжа.

Таксама зрабілі з дапамогай вязьням. Пасадзіўшы ў сябе, у Расеі ўсіх, хто ня хоча прыслужвацца Сталіну і яго кампаніі*), аддаўшы ўсю Расею ў рукі да судовае расправы палітычнае паліцыі (ГПУ), скасаваўшы свабодны суд, камуністыя цераз Мопр стараюцца пашыраць камунізм у другіх краёх. З аднаго боку пхаюць людзей на праступкі, за якія грозяць вялікія кары, змушаючы займацца шпіёнствам і іншымі зладзействамі на карысьць чырвонае Масквы, бальшавікі пасьля ў турме памагаюць... траціць здароўе.

Але гэтая помач агранічваецца толькі для некаторых адзінак, так сказаць для грубых рыбаў камуністычнага руху за межамі Расеі.

Звычайныя работнікі і сяляне, якія лёгкаверна ідуць за агітатарамі, ніякае помачы ня маюць, марна гібеюць у цяжкіх абставінах турмы.

Агляд абвінавачаных у справе Грамады зьяўляецца добрай ілюстрацыяй і пацьверджаньнем гэтага. Бо апрача некалькіх асобаў, якія выглядаюць добра і сыта, шэрыя людзі-сяляне ўсе бледныя, худыя і зьнішчаныя ўмовамі жыцьця ў турме. Аб іх Мопр ня дбае, а на турэмным стале не паправішся. Таксама марнеюць без работнікаў сем'і пасаджаных у турму сялян, якім ніхто не памагае.

Памагаючы асуджаным і пасаджаным у турму ў іншых краёх, бальшавікі зусім ня дбаюць аб сваіх палітычных вязьнях, якія гніюць і гінуць у бальшавіцкіх катаргах.

*) Лёс Троцкага і „опозыцыі".

На ўсім сьвеце няма такіх турмаў, як Салоўкі, дзе сядзіць каля 15.000 вязьняў у страшэнна цяжкіх умовах жыцьця.

Усе работніцкія арганізацыі, усе соцыялістычныя партыі (апрача камуністых) зьбіраюць грошы для гэтых ахвяраў бальшавіцкага зьверства і дыктатуры. У часопісі анархістых „Дело Труда" у № 33-34 на стар. 2 чытаем: „Дыктатура бальшавікоў душыць перад усім пролетарыят. Яны трымаюць работніцкую клясу прыкованай да катаржнае тачкі наёмнае працы і будуюць сваю „соцыялістычную" дзяржаўнасьць і „соцыялістычнае" грамадзянства выключна на падняволеньні работніцкае клясы. Было-б вельмі сумна і безнадзейна для лёсу працоўных, калі-б у іх масе не падняўся голас пратэсту проціў гэтае новае ўведзенае бальшавікамі няволі і не паўстаў-бы прызыў да барацьбы з імі". Далей ў гэтым-жа нумары часопісі чытаем, што работнікі з Амэрыкі сабралі 650 даляраў для работнікаў, пасаджаных у катаргі бальшавікамі.

Такім чынам, відзім, што самі работнікі памалу пазнаюць сапраўдную вартасьць бальшавікоў, гэтых вінаўнікаў новае няволі, у якую закавалі ўвесь працоўны люд у Расеі і якія імкнуцца зрабіць тое самае з усімі працоўнымі вёскі і места на ўсім сьвеце. Р. Т.

---

Ад 20 красавіка г. г. Рэдакцыя і адміністрацыя „Беларускага Дня" перанесена на вул. **Сьвятога Яна 27 кв. 1** (ul. Świętojańska 27 m. 1).

---

як ёсьць, — адказаў рагочучы, затрымаўшы каня, Янка.

— Ды што-ж я магу табе даць, во хіба гэты букет вескавых красачак, якіх я сама назьбірала на гэтай сенажаці.

— Ну, вось дзякую, а цяпер слухай уважна ды толькі ня спужайся ад радасьці: сягоньня прыехаў твой Алесь! — прамовіў Янка, гледзячы Зосьцы ў вочы.

— Няўжо! Мусі няпраўда, ён-жа пісаў, што цяпер прыехаць ня можа, — адказала Зоська, аднак гэтая вестка зрабіла на яе моцнае ўражаньне, бо ўся зарумянілася, як зарніца на захадзе сонца, і ў вачох можна было прачытаць неапісаную радасьць. Дый зусім зразумела. Алесь — гэта ёе неадступны сябра дзяцінных дзён, разам з ім гуляла па сенажаці, разам хадзілі ў лес па ягады, разам дзялілі ўсе радасьці й нягоды жыцьцёвыя. Пасьля калі ён вучыўся ў гімназіі, яна з нецярпеньнем чакала той хвіліны, каб мець магчымасьць з ім пабачыцца. А ў часы вакацыяў праводзіла з ім чароўныя летнія вечары, калі забывалася ў яго абняцьцях аб усім чыста навакольным, а думка яе шыбала ўгары ў бяздонных абшарах. Цяпер нягодны сваімі паступкамі Якуб робіць перад бацькамі ўсе магчымыя стараньні, каб узяць яе сабе, разлучыць з Алесем назаўсёды.

— Да душы праўда! Я з ім бачыўся ўжо, казаў, што жадае чым хутчэй цябе пабачыць, вось ідзём разам дамоў, а там вечарам прыходзь ў наш канец вёскі, дык пабачыцеся, — прамовіў Янка і пайшлі ўдваіх крывою дарожкаю ў кірунку вёскі.

## II.

Вясеньні змрок ападаў павольна на зямлю і ўсё жывое ўкалыхваў да спакойнага сну. Рабілася што раз цямней... Прыбліжныя дрэвы сталіся што раз менш выразныя, нарэшце зусім зьліваліся ў бяскшталтную масу ў вячэрняй цемры.

У кустох над рэчкай былі чутны салаўіныя сьпевы, якія разьліваліся плаўна ўвакруг. З вёскі даносіўся голас моладзі і перарывчатае граньне гармоніка. На лаўцы пад старымі ліпамі сядзелі два неразлучныя сябры маладых гадоў Янка з Алесем, якія, пасьля доўгага нябачаньня, вялі між сабою ажыўленую гутарку.

— Не, брат Алесь, ты не павінен згадзіцца з гэтым, каб Зоську бацькі выдалі за Якуба, яна цябе шчыра кахае, ну дык чаго больш трэба?

— Зоська, то Зоська, з ёю клопату ня будзе, але бацькі яе ўпруцца, дык трудна будзе даць нейкую раду, бацьку я добра ведаю, ягоная адна мэта — багацьце, а я бедны, — адказаў безнадзейным голасам Алесь.

— Ды што там! Усё будзе добра! Паглядзіш! Гэта-ж грахам было-б аддаць такую дзяўчыну гэ-

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Культура аўса (Avena sativa).

З пасярод управы яравых збожжаў у Польшчы, як і па ўсім сьвеце, найбольш ёсьць распаўсюджана культура аўса. Яго не разводзяць толькі ў некаторых мясцовасьцях Каўказу і на крайняй поўначы, дзе ў першым выпадку занадта гарачы клімат выпальвае зярняты, хоць на саламу ён там расьце добра, а ў другім выпадку—на поўначы—авёс ня можа пасьпяваць.

Тут трэба сказаць, што авёс, наагул, ня зносіць вельмі халоднага, таксама як і гарачага клімату, дык вось часамі бывае, што і ў нас, на Беларусі, авёс, як кажуць, заводзіцца і не заўсёды добра родзіць, хаця, ня кажучы аб іншых прычынах, нашыя варункі кліматычныя і грунтавыя самыя адпаведныя для культуры аўса.

Культурныя гатункі аўса паходзяць ад дзікіх відаў яго, якія яшчэ і цяпер спатыкаюцца ў Усходняй Эўропе і Заходняй Азіі. Калісь авёс быў адным з галоўных хлебных збожжаў у Эўропе, але з часам ён уступіў сваё месца іншым збажовым расьлінам, што нават трэба шкадаваць, бо аўсяная каша і кісель, асабліва ў наш нэрвовы век вельмі пажыўная.

І цяпер яшчэ ў Шотляндыі часта з аўса пякуць хлеб, а як ведама, здароўе шотляндцаў уходзіць у пагаворку.

У Польшчы найбольш усяго аўса сеюць на на Слёнзку, затым у Малапольшчы (Галіцыі) і найменш усяго на Паморы і ў Пазнані. У залежнасьці *ад гатункаў аўса, ад абработкі і ўгнаеньня зямлі*, розныя ваводствы паказваюць вялікую розьніцу ў ураджаях аўса.

Гэткім парадкам напрыклад: у Пазнані і на Паморы ў сярэднім з аднаго *ha* зьбіраюць:

| | | | |
|---|---|---|---|
| | 17,1 цэнтн., | каля | 103 пуд. |
| на Слёнску . . . . . | 14,9 „ | „ | 90 „ |
| у Канграсоўцы . . . | 14,6 „ | „ | 87 „ |
| у Малапольшчы . . . | 11,2 „ | „ | 67 „ |
| а у нас на Беларусі . | 9,5 „ | „ | 57 „ |

З гэтага параўнаньня мы бачым, што ў нас культура аўса зусім занядбана, а ёсьць усе даныя дзеля таго, каб падняць ураджайнасьць і ў нас аўса. Трэба ведаць, што офіцыяльная статыстыка, год таму назад, выказвала, што ўсяго ў Польшчы занятых было пад авёс 2.515.000 гэктараў зямлі, з чаго агульны збор ураджаю даў да 33,5 мільёнаў цэнтнараў аўса, што ў сярэднім выносіць па 13,4 цэнтнара з гэктару. Калі-ж узяць пад увагу тое, што ў Польшчы маем больш, як 3,4 мільёнаў коняй, дзеля выкармленьня якіх у сярэднім патрэба па 14,64 цэнтнараў, або 88 пуд. у год на каня, то выходзіць, што патрэбнасьць аўса становіць каля 48 мільёнаў цэнтнараў, а зьбіраючы 33 мільёны цэнт., кожны год не хапае 15 мільёнаў цэнт. аўса.

Гэны недахоп часта прыходзіцца надточваць жытам, атрубямі, бульбамі альбо адгорычаным лубінам. Дык вось дзеля чаго кожны год вясною ў нас падносіцца цана на авёс, пашырэньне ўправы якога вельмі пажаданае, бо авёс найлепшы корм для ўсяго жывога інвэнтару, асабліва для коняй, жарабят і цялят.

---

Паўсюды прынята думаць, што авёс мала вымагае ад якасьці зямлі, або абработкі і ўгнаеньня грунту, але гэткі пагляд ня зусім правід-

---

таму подламу хлапцу! Не, ты павінен не дапусьціць да гэтага, — адказаў рашуча Янка. — Ну, а што там чуваць у цябе? Як школа, як там жыхарства заглядаецца на нашую працу?

— Усё вельмі добра, — пачаў Алесь. — Сяджу, працую сярод вясковае цемры, ды цешуся з памысных вынікаў мае працы. Слухай, брацеl Ці гэта мала радасьці і здаволеньня, як вучыць гэтых вясковых дзетак, якія схвапна здабываюць веду ў роднай мове. А пасьля кожнае гэтае дзіцянё, якое выйдзе з роднае школы, павялічыць рады змагароў за лепшую будучыню нашае Бацькаўшчыны.

— А ў цябе што тут чуваць добрае?

— У мяне тут таксама ўсё добра! — прамовіў бадзёра Янка. — Усе вельмі зацікаўленыя беларускім рухам, пільна чытаюць кніжкі і газэты, толькі адзін Якуб, гэты твой супернік, стараецца ўсялякімі спосабамі перашкаджаць пашырэньню роднай асьветы сярод вясковага жыхарства. Заўсёды страшыць, што той, хто чытаець беларускія газэты, адкажаць за гэта, ды робіць розныя ілжывыя даносы.

— Ах, подлы! — прамовіў ненавісна Алесь, — але, падумаўшы, дык ня вінен ён гэтаму, а вінавата яго цемната. Нічога, браце, не парадзіш, мы якраз мусім праз асьвету імкнуцца да таго, каб гэтакіх было ў нас што раз менш.

— Ну бывай, брат, здароў! Пабачымся яшчэ заўтра, а я пайду ўжо дамоў ды накірую табе сюды Зоську, ты пачакай тут пару хвілін, — і з гэтымі словамі пайшоў у другі канец вёскі.

Ціха павеяў цёплы вецярок. З сенажаці даносілася працяжная песьня начлежнікаў. Алесь сядзеў непарушна, бы зачараваны прыгожым вобразам вясеньняе ночы, і ўслуханы ў адрывістыя гукі роднае песьні, разважаў сабе:

— Божа! Што за шчасьце жыць сярод сваіх родных загонаў, дыхаць вольным паветрам, цешыцца ўсякаю праяваю вясковага жыцьця, слухаць свае родныя песьні, сумная мэлёдыя якіх, здаецца, парываець з забою і нясець у густы лес, шырокія палі, увысь да зор! Эх, Беларусь! Родная краіна! Якая ты чароўная й багатая вобразамі, якія дараць нас вялікай асалодай у нашым гаротным жыцьці. А гэтыя масы вясковага люду, якія ўжо самі схвапна горнуцца да асьветы і творчае працы на роднай ніве! Усё гэта напаўняець грудзі вялікім шчасьцем, што хацеў-бы, здаецца, зламыць свае жыцьцё на аўтар Бацькаўшчыны!

Побач з гэтымі сьветлымі думкамі закрадаўся на дно душы непакой аб тым, ці ўдасца яму ўтрымаць пры сабе дарагую істоту Зоські. Пад уплывам гэтых разважаньняў ён забыўся аб усім, спусьціў галаву і сядзеў непарушна ў глыбокай

ловы: бо за добрае ўгнаеньне, абработку і дагляд авёс часта больш аплачвае, як іншая расьліна. Авёс добра ўдаецца і родзіць на ўсялякіх грунтох, як на цяжкіх глiністых, так і лёгкіх, толькі на самых пясчаных грунтох і кіслых альбо занадта сапаватых, дзе зямля заплывае і робіць скарынку, авёс не ўдаецца.

Асабліва добра авёс родзіць *на адлогах альбо цалінах, а таксама пасьля многалетніх траваў — на канюшыньнішчах, люцэрнішчах,* пасьля бульбы, буракоў і морквы. Так-жа добра авёс ідзе па расьлінах стручковых і матыльковых, як па гаросе, бобах, канюшыне, па зялёных гнаёх— лубіне, сарадэлі, якія збагачваюць зямлю азотам. Авёс удаецца нават і на тарфяністых, балотных грунтох, толькі на вельмі сільных і вязкіх грунтох выходзіць больш саломы, як зярнят.

Найлепшыя зярняты—цяжкія і тонкаскурыя атрымліваюцца ад аўса, які пасеяны на *сугліністых і супясчаных грунтох.* Надта добра авёс родзіць, калі ўгнаіць грунт „шлямам" (перагнойнаю зямлёю), з якой-небудзь сажалкі, (ставу), або з тарфянiстага балотца, якіх гэтак дужа ёсьць у нас. Будучы пасеяным сам па сабе авёс радзіць кепска.

Авёс ніколі ня знозіць глыбокага прыкрыцьця яго бараною падчас севу, але надта павялічвае ўраджай, калі сеяць яго на глыбока абробленых грунтох, пры гэтым грудкаватае поле—найлепшыя варункі дзеля росту аўса.

Што датычыцца ўгнаеньня пад авёс, то дзеля таго, што авёс мае вельмі разьвітую сыстэму карэньня, якое добра можа вызыскваць азот і паташ—гэтыя галаўнейшые кормы з грунту, то пад авёс найлепш усяго аплачваецца даваць супэрфасфату (16%) якіх 200 — 300 кілёгр., (12 — 18 пуд.), на гэктар, хаця трэба не забываць, што даўка азоту, ў постаці гною, або чылійскай салетры ад 50 кілёгр. або азатняку 150 кгр. заўсёды вельмі павялічвае ўраджай аўса.

На землях вельмі вычарпаных добра надаецца расьсяваць пад авёс азатняку або серчанага амону, якіх 100—150 кілёгр. (6—9 пуд.), паташовай солі (30%)—200 кг., альбо замест яе кайніту (9%) якіх 400—600 кілёгр. (24 – 36 пуд.) на гэктар, і асабліва кайніт добра ўжываць на грунты супясчаныя і тарфяністыя. Авёс любіць раньні пасеў, але патрабуе зямлі чыстае ад сьметнякоў і тэмпэратуры цяпла найменш 4° — 5° С., пры якой авёс ужо пачынае прарастаць, бо калі будзе ў паветры менш цяпла, авёс ляжыць бяз росту. Найлепшая тэмпэратура для росту аўса 20°—25° С., а ўлетку, калі цяпла будзе больш як 30° С., то ўжо авёс будзе прыпалены. Калі грунт пад пасеў аўса вельмі засьмечаны пырнікам, або сурэпіцаю, то поле перад пасевам трэба, пачакаўшы як узыйдуць сьметніковыя травы, добра выбаранаваць альбо перабраць пружыноваю бараною, каб зьніштожыць травы, бо лепш пасеяць авёс пазьней на два тыдні, але ў чыстую зямлю, як рабіць раньні пасеў, але ў засьмечаны грунт. Калі здарыцца, што ня гледзячы на добрую апрацоўку зямлі, пры раньнім пасеве аўса ўсё-ж такі пакажацца пырнік, лапушнік і сурэпіца, то поле трэба зараз-жа добра і моцна выбаранаваць, што зусім не зашкодзіць маладому аўсу, але яшчэ падгоніць яго рост, а травы выгубіць. Гэтак сама баранаваньне трэба рабіць і тады, калі пасьля навальніцаў зробіцца скарынка на зямлі. Яшчэ трэба заўважыць, што асабліва добра авёс удаецца на *полі, якое з восені рана згарана, зараз-жа пасьля ўборкі хлябоў,* а на вясну зрабіць раньні пасеў, тады ўраджай заўсёды бывае ў *паўтара-разы* большы, чым ураджай аўса з пасеву па адной толькі вясьняной орцы, па позьняй вясеньняй орцы яшчэ калі поле было на зіму забаранована.

---

задуме, так што ня чуў як прыбліжалася шпаркімі крокамі дзявочая постаць, схапіла яго за плечы і звонкім голасам прамовіла:

— Алесь! Гэта ты? Чаго-ж так засумаваўся? Бач, якая прыгожая ночка, толькі весяліцца ды песьні пець!

— Эх, Зоська! — з трудом прамовіў Алесь.— Ня гэтак я спадзяваўся цябе спаткаць. Зоська! Скажы шчыра, ці ты сапраўды будзеш такая стойкая, што пойдзеш супроць бацькоў і застанешся маёй назаўсёды? — Пры гэтых словах ён яе моцна прытуліў да сябе і глянуў лагодна ў яе вочкі, якія, бы тыя ясныя зоркі ў блакітным небе, блішчэлі сярод начной цемры на яе цямнявым твары. Яна, узрушаная ягонымі словамі, скланіла яму на грудзі сваю галоўку, пакрытую раскудлачанымі ад ветру, як лён, валасамі.

— Алеська! — прамовіла дрыжачым голасам Зоська. — Як гэтыя дзьве зоркі на небе, што так блізка мігцяцца адна каля аднэй і ніколі хіба не разстануцца, так і мы з табою супольна будзем змагаць усе негадзі жыцьцёвыя і ніякая злая воля і нясьведамасьць маіх бацькоў ня здолеець нас разлучыць, — і яна замоўкла, апускаючы ўніз свае блакітныя вочкі і глыбока задумалася.

— Толькі ты старайся не сварыцца з Якубам і не зьвяртай ніякае ўвагі на ягоныя паступкі, — дадала Зоська.

— Не, Зоська! — адказаў Алесь, — я не магу а ніяк пераносіць вобразу гэтага чалавека. Дзеля таго, што ён заляцаецца да цябе, я на яго ня крыўдую, а нават спачуваю, бо і ён чалавек і маець чалавечыя пачуцьці, але тое, што ён насьмяхаецца з усяе нашае працы на адраджэнскай ніве і стараецца ўсякімі спосабамі яшчэ перашкаджаць, гэтага я не магу пусьціць міма вушэй.

— Ну, як сабе хочаш, — адказала Зоська, — а я пайду ўжо да хаты, бо хутка поўнач і маці сварыцца будзе. Ну, бывай!

— Не, адна ня пойдзеш, я мушу цябе правясьці, каб часамі праклятым Якуб не спаткаў цябе, — і яшчэ раз прыціснуў яе да грудзей і моцна пацалаваў у самыя вусны.

У гэту хвіліну выплыў з-за хмары месяц і абліў іх залатым блескам сваіх праменьняў.

А яны ўсьцяж стаялі непарушна, забыўшыся аб усім чыста, упоеныя глыбокім пачуцьцём шчырага каханьня.

*(Канец ў чародным нумары).*

У маладым веку авёс розьніцца ад ячменю тым, што ліставая трубачка яго бывае закручана *ўлева*, а ў ячменю ліст закручваецца *ўправа* і апрача таго, маладыя лісткі аўса заўсёды цямнейшыя, як у ячменю.

Насеньня аўса на землях сярэдня ўраджайных высяваюць радавымі сеялкамі ад 105 да 135 кілёгр. (6—8,5 п.), але ў нас у практыцы найбольш сеюць, раскідаючы, і тады насеньня патрабуецца на гэктар 176 кілёграм (11 пудоў), а часамі расьсяваюць і 210 кілёгр. (12,5 п.). Ураджай аўса гэтак-жа бываець вельмі ня роўны, бо напрыклад, у Саксоніі (Нямеччына) ўраджай аўса ня раз даходзіў да 40 цэнтнароў (240 пуд.) з аднаго гэктару; падобныя рэзультаты ня раз бывалі і на паўночнай Украіне.

Авёс больш другіх хлебаў астаецца на полі да поўнага пасьпяваньня, вымагае значнае сырасьці ад грунту, вось дзеля чаго павінен быць высяваны рана, як толькі ўбосую нагу ня холадна на зямлі, асабліва трэба старацца рана сеяць, калі спадзяваюцца сухое вясны.

Поле пад авёс араць з восені рана і магчыма глыбока, пакідаючы пласты небаранованнымі, вясною, як толькі зойдзе сьнег і пацяплее да $4^0$ С., поле выбаранаваць і прыкрыць ня глыбока авёс.

На грунтох сухіх і высокіх авёс трэба сеяць раней, як на сырых і нізкіх; на канюшынішчах раней, як на мягкіх грунтох.

У Англіі даволі часта сеюць авёс азімы, які дае большыя ўраджаі, як яравы, але гэта можна рабіць там, дзе тэмпэратура зімою бывае ня вышэй, як $12^0$ і дзе зямля з восені зараз-жа пакрываецца сьнегам.

Усе сарты аўса розьняцца перш за ўсё выглядам сваё мяцёлкі, якая ў адных аўсоў бывае раскідзістая і каласкі вісяць ува ўсе бакі; ў другіх мяцёлка мала раскідзістая і каласкі вісяць толькі з аднаго боку; гэтакія аўсы называюцца аднагрывымі.

Па колеры плёнак (скурак) шалухі аўсы дзеляцца на белыя, жоўтыя і чорныя, залацістажоўтыя і бурыя; па даўжыні зярнят — на аўсы з кароткімі поўнымі зярнятамі і з доўгімі шылаватымі зярнятамі, яшчэ разьлічаюць па таўшчыне шалухі, па часу скорасьпеласьці, бо адны аўсы бываюць раньнія, другія—позныя. Ёсьць аўсы бязвостыя, ёсьць з восьцямі, ў адных у каласкох бывае два зярняты, ў другіх тры і нават чатыры.

З раскідзістых улепшаных сартоў найбольш вядомы і распаўсюджаны авёс францускі, які гэтак-жа часта называюць тульскім, або мохаўскім (ад месца прадукаваньня—ў маёнтку Мохава); завуць яго і шацілаўскім (ад прозьвішча гаспадара м. Мохава).

Гэны авёс вельмі не вымагальны, мае высокую даволі тоўстую салому, кудлатую трохі нагнутую на адзін бок мяцёлку, тонкую кажуру і бязвостыя сьветла-жоўтыя, поўныя, цяжкія зярняты.

**Прабштэйскі авёс**, паходзіць з Гольштыніі, гатунак гэты прыстасаваны да вільготнага клімату, вымагае добрага грунту, мае шырокую мяцёлку з двузярняткамі, жоўтую салому, якая не вылягае, кусьціцца добра і адпорны на маразы. Сорт гэты позны і распаўсюджаны ў Нямеччыне, Даніі і на Скандынаўскім паўостраве.

**„Лігаўскі“** — паходзіць з Пірынэйскіх ваколіцаў і надаецца на грунты лягчэйшыя і сухія, мае шырокую мяцёлку, каласкі двузярняткі, а зярняты кароткія, грубыя ў тоўстай кажуры.

**„Мільтан“**—мае забраную мяцёлку, нясе найбольш каласкі аб трох зярнятах, якія бываюць кароткія і грубыя. Гатунак гэты паходзіць з Паўночнае Амэрыкі і ад яго выведзены сарты—„Залаты Дождж“ з дробнымі зярнятамі і

**„Пераможца“** — даволі ўраджайны з цяжкімі амаль бязвостымі бела-жоўтымі зярнятамі, вымагае добрае абработкі зямлі, распаўсюджаны ў Чэхаславакіі.

**„Беляк“ альбо „Грытлінг“**, які выгадаваны ў Швэцыі, завуць яго яшчэ **„Свалёфскім“** і паходзіць ён ад Канадыйскага аўса, надаецца ў мясцовасьцях з суровым кліматам, на землі тарфяністыя і заплыўныя; мае мяцёлку сабраную, каласкі бязвостыя найбольш аб трох поўных зярнятах, якія маюць амаль белы колер, рана пасьпявае і нялёгка асыпаецца.

**„Лёхаўскі“** жоўты, паходзіць з „Петкускага“ гатунку, даволі ўраджайны, надаецца на лёгкія грунты, мае маларазложыстую мяцёлку, прадаўгаватыя, як-бы сплюшчаныя, жоўтыя, ў тонкай кажуры, зярняты, пасьпявае рана, але салома часта вылягае.

**„Рыхлік Мікуліцкі“** паходзіць з Карпатаў, невымагальны на абработку, надаецца на сушэйшыя грунты, на моцна ўгноёных грунтох вылягае.

**„Сабешынскі“** — сорт пазьнейшы, дае добрыя ўраджаі, добра кусьціцца; мае высокую моцную салому, зярняты жоўтыя, асьцістыя ў тонкай кажуры.

**„Ангельскі“** авёс, альбо гэтак званы „Потато“, завуць яго яшчэ бульбяным, бо ён вымагае глыбокае і добрае абработкі, ўдаецца добра на бульбовішчах, гатунак вельмі ўраджайны, пасьпявае позна, мае добрую і высокую салому, кароткія вельмі поўныя і цяжкія зярняты ў тонкай кажуры.

Гатункі аўса з чорнымі плеўкамі, як (**„Этамскі“** і **„Бры“**) не вымагальныя да грунтоў, але маюць дробныя, тоўстаскурыя зярняты.

Што датычыць **аднагрывых аўсоў**, то ўсе яны выдзяляюцца тым, што добра кусьцяцца, маюць тоўстую і высокую салому, пасьпяваюць пазьней трохі, але вымагаюць добрых грунтоў, хаця добра зносяць засухі.

З пасярод іх найбольш вядомы: **„Вэнгерскі“** з вялікімі тонкаскурымі белымі зярнятамі і гэтак званы **„Татарскі“** з чорнымі зярнятамі. Чорныя аўсы яшчэ называюцца **арабскімі**, розьняцца тым, што маюць чорныя зярняты, кароткую салому, даволі ўраджайныя, ня вельмі многа вымагаюць ад грунту, але зярняты і луска іх даволі цьвёрдыя, ды і самі зярняты дробныя.

Ураджай аўса на нашых лепшых грунтох могуць даходзіць да 1920 кілёгр. (120 пуд.), саломы бывае ў сярэднім ў паўтара разы больш. Зярняты аўса маюць у сабе асаблівы складнік, гэтак званы **авэнін**, які вельмі добра скуткуе на нэрвовую сыстэму людзей, гэтак-жа і коняй, якія, атрымліваючы авёс, і на старасьці любяць падбрыківаць. Аўсяная мука вельмі надаецца для аслабеўшых хворых людзей, выпрацаваных коняй і для адкорму ўсялякай жывёлы. У некаторых мясцовасьцях Расеі з аўсянае мукі робяць гэтак званае *талакно*, што ёсьць нішто іншае, як добра

падсушаны і зьмелены аўсяны солад, а пасьля звараны, як з звычайнае сырое аўсянай мукі „кісель“ або „жур“.

*Я. Х.*

## Аб лёне і управе яго.

Лён расьце ў вельмі цёплых краёх, як Эгіпэт і Бразылія, а так сама ў халодным Сыбіры, але найлепшым клїматам для лёну зьяўляюцца краі з сярэдняй тэмпэратурай, як у нас, а асабліва ў тых месцах, дзе ў паветры знаходзіцца шмат вільгаці. Бо ад вільгаці (сырасьці) залежыць гатунак лёну. Найлепш родзяць лён такія краі: Бэльгія, Голяндыя, Ірляндыя, Латвія, Эстонія, дзе блізка мора, многа азёраў, рэк, ставоў і лясоў. Частыя дажджы, імгла, багатыя росы — гэта ўсё вельмі спрыяе росту лёну. Беларускае Палесьсе ды і ўся Заходняя Беларусь зусім надаецца для ўправы лёну, бо якраз у працягу лета выпадае столькі дажджоў, колькі вымагае лён. Калі-б нашыя сяляне добра прыгатаўлялі пад лён грунт і ўжывалі штучныя гнаі, дык напэўна гатункі лёну і ўраджай яго падняўся б у шмат разоў.

Лён не вымагае асаблівага грунту, адно толькі, каб гэты грунт заўсёды меў крыху сырасьці. Вядома не на кожнай ральлі можна атрымаць аднолькавы ўраджай і такое самае валакно. Ня вырасьце лён на сухім пяску, на цяжкай гліне, бо гэтая ральля хутка высыхае, а гліна скарупее. Ня ўдасца лён на тарфіне, дзе плясьнее і гніе, і на чарназёме, бо там выляжа і загніе. Благім грунтам будзе той, дзе ёсьць шмат вапны, бо валакно будзе грубое і ломкае.

Найбольш адпаведнымі будуць грунты глініста-пясчаныя, ілястыя, з-пад вясенньй вады, а так сама навіны па лясох і лугох, а нават лёгкія грунты, але з глінай пад грунтам.

На колькі лён вымагае і любіць сырасьць у паветры і ральлі, натолькі баіцца грунтавое вады, бо корань, дайшоўшы да вады, перастае далей расьці. Дзеля гэтага ня трэба сеяць лёну на такіх грунтох, дзе вада знаходзіцца бліжэй, чымся на мэтр ($1^1/_2$) пад грунтам.

### Дзе сеяць лён?

Перш за ўсё нельга сеяць лёну на тым самым месцы часьцей, як па 6-пёх гадох. Пасеяны часьцей напэўна ня ўдасца, найлепш сеяць пасьля канюшыны, дзеля таго, што засеянае канюшынай поле мае многа сырасьці і азоту, а мала зельля.

Добра расьце лён пасьля каласістых збожжаў (апрача ячменю), бо там ёсьць даволі вапны. Яшчэ лепш удаецца лён пасьля буракоў, бульбы, морквы, рэпы (кармавых). Найлепшым, аднак, грунтам пад лён будуць навіны, лугавыя пасьбішчы і лугі, узятыя пад лён. Нельга сеяць лён пасьля ячменю і гароху.

Лён найлепш сеяць якнайраней і пасьля зборкі яго з поля, а гэта можа наступіць перад жнівам, можна на такім лянішчы пасеяць лубін, пялюшку ці віку, з чаго можна мець добры зялёны гной пад бульбу ці ярыну. Пасьля лёну ўдаецца пшаніца і канюшына. Сеючы лён радавым сеўнікам, можна адразу сеяць лён з канюшынай, тады поле будзе чыстае ад зельля, а пасьля таго, як вырвецца лён, добра ўдаецца канюшына, бо можна браць нават першы пакос. Так сама можна лучыць лён з кармавою морквай, ці рэпаю. Пасьля гэтага найлепшы будзе такі падзел калейнасьці пасеваў:

1 прадплён. Канюшына, пшаніца, жыта, авёс, бульба, буракі, навіны.

2 плён. Лён, лён з канюшынаю, морквай ці рэпаю (кармавымі).

3 (пасьля лёну). Лубін, пялюшка і віка, пшаніца, канюшына, жыта, бульба, буракі, ярына.

Лён вымагае ральлі багатай паташом і ў малой меры азотам. Дзеля гэтага лён ня любіць сьвежа вывезенага вясною гною з хлява, бо ў такім гнаі зашмат азоту, ад якога бывае грубае валакно. Лён засеяны на сьвежым гнаі найчасьцей вылягае і прарастае зельлем.

Лён павінен засявацца на такой ральлі, якая была перад пасевам у працягу некалькіх гадоў добра ўгноена, з якой шкодныя для лёну патравы пайшлі на прарастаньне іншых расьлінаў, а засталіся толькі тыя, якіх патрабуе лён. Каб-жа іх ня было мала, трэба падгнаіць поле пад лён штучным гноем. На слабейшых грунтох лён лепш удаецца, калі гной быў дадзены за год перад пасевам лёну, а на грунтох лепшых нават за 2 і 3 гады.

Перад усім пад лён трэба даваць паташ у форме кайніту на лягчэйшыя землі і паташовай солі на грунтох цяжэйшых. Пры добра дабраным полі, якое мае даволі сырасьці (без падгрунтовай вады) і не вынішчаным з азоту праз папярэдні засеў, даволі даць на $^1/_2$ дзесяціны ад 15 да 24 пудоў Страсфурскага кайніту, або ад 18 да 27 пудоў калускага кайніту для лёгкіх грунтоў, а для цяжэйшых 40%-ае паташовае солі ад 6 да 9 пудоў.

Угнаеньне паташом найчасьцей забясьпечвае добры ўраджай лёну. Але калі ральля мае мала фосфару, трэба да гэтага паташовага ўгнаеньня дадаць на $^1/_2$ дзесяціны ад 9 да 12 пудоў тамасоўкі або $4^1/_2$-6 пуд. супэрфасфату. Большую даўку паташу трэба даваць пасьля бульбы, буракоў і рэпы, меншую пасьля каласістых збожжаў.

Кайніт і тамасоўку трэба рассыпаць па полі позьняй восеньню, перад самай зімой, або нават зімою, калі дазваляе пагода. Паташовыя солі рассыпаюцца перад севам.

### Управа ральлі пад лён.

Вельмі важнай справай зьяўляецца добрая ўмелая ўправа ральлі пад лён. Пасьля зьняцьця збожжа, прадплёну трэба зараз ральлю згараць плытка, звальцаваць і выбаранаваць, каб забясьпечыць яе перад высыханьнем і недапусьціць разросту зельля. Позьняй восеньню трэба загараць ральлю як найглыбей. Вясеньнюю работу трэба распачаць якнайрарей, як толькі ральля даволі абсохла. Перад усім ральлю трэба ўзрушыць культыватарам або бараною. Усе далейшыя работы на полі, прызначаным пад лён, павінны быць закончаны загадзя перад севам, каб зямля магла асесьці. Пасьля ўсіх гэтых прыгатаваньняў, прыступаем да севу лёну. Сеяць трэба якнайраней. Лён вымагае ў пачатку свайго росту многа сырасьці, пры раньнім севе ён скарыстае з сырасьці пасьля зімы і, прарастаючы хутчэй, чымся зельле, паб'е яго. Апрача таго, раньні лён, сабраны перад жнівам, дасьць лепшае валакно і зяр-

ня, чымся позны. Лён прымаразкаў да 4° Цэльсія не баіцца.

Пры добрай управе зямлі і пры штучным угнаеньні на $^1/_3$ дзесяціны выходзіць ад $4^1/_2$ да 5 пудоў насеньня.

Галоўнае вымаганьне пры севе лёну — роўнае разьмяшчэньне зярнят. Дзеля гэтага сеяць трэба ў ціхі, бязьветраны дзень, найлепш сеўнікам. Прыкрыцьце засеву зямлёю не павінна быць глыбейшым ніж 2-3 сант. і таму трэба баранаваць па аднаму разу лёгкай бараною.

Калі гаспадар выканае ўсе вышэйпаданыя чыннасьці, то засеяны лён не вымагае вялікага клопату, а нават палоцьця. Можа здарыцца, што гарачыня пасьля вялікага дажджу выклікая заскарупеньне ральлі, асабліва бывае гэта пры позным севе.

Тады трэба ўзрушыць зямлю няроўным, з робрамі валам. Але ў нас найлепш сеяць лён якнайраней, бо тады маёвыя засухі, а нават і ў чэрвені ня шкодзяць падняўшамуся і ўзмацаваўшамуся лёну.

I такі старшы лён звычайна папраўляецца ад засухі пасьля першага дажджу. Малады-ж можа змарнець.

Палоць лён трэба тады, калі ён падняўся на 5 см. пасьля таго, як спадзе вада і пад вецер. Полючы трэба вырываць зельле з караньмі, нельга выскубоўваць паасобных травінкаў, бо гэта шкодзіць лёну.

Калі лён выляг, трэба яго рваць зялёным, не чакаючы пакуль дасьпее насеньне, бо інакш змарнуецца валакно. Рвучы-ж лён зялёным, трацім толькі насеньне, але здабываем добрае валакно, якое цэніцца даражэй, чымся з дасьпелага лёну.

*„Кіеву“.*

---

## Кукуруза або маіс (Zea mais).

Кукуруза паходзіць родам з Амэрыкі, адкуль у 16 веку яна першы раз папала ў Гішпанію, а з Гішпаніі кукуруза разышлася па ўсёй Эўропе, Малой Азіі, і ўжо цяпер яе сеюць нават у Афрыцы, Кітаі і Японіі. Кукуруза, пасьля рысу, займае першае месца па ліку людзей, якіх яна корміць. Зярняты кукурузы вельмі спажыўныя і хаця ўступаюць хлебу па крахмалу, якога маюць ня больш, як 61—65%, але за тое маюць дужа цукру і асабліва жыру, якога часта бывае ад 4 да 8%.

Кукуруза дае зярня ня толькі годнае для людзей, але яно надаецца для вінакурэньня, дабываньня крахмалу, асабліва надаецца дзеля адкорму сьвіней, птаства і коняй.

З кукурузы робяць крупы і муку, а ў Амэрыцы часта з гэнае мукі пякуць хлеб, хаця, трэба сказаць, што хлеб гэны, без дамешкі пшанічнае або жытняе мукі, вельмі хутка чарствее.

У Італіі з мукі кукурузы вараць пахлёбку— „поленту“, у Румыніі — вядомую „мамалыгу“, у Мэксыцы — „атоллі“, а ў Амэрыцы — „тортіляс“ і гэтак-жа вараць піва „хіха“.

Самыя сьцэблы і пачаткі ад зярнят могуць быць скормліваны быдлу, або ідуць на апал. Наагул кажучы, кукурузная салома — вельмі добры корм для быдла, як у зялёным стане, гэтак і ў сухім, а часта гэную салому рэжуць на кавалкі і сіласуюць (квасяць) у земляных ямах бяз доступу паветра.

Малое распаўсюджаньне гэтага вельмі выгаднага і патрэбнага хлеба, асабліва ў малых гаспадарках, можна тлумачыць толькі тым, што многія ня ведаюць той карысьці, якую можа даць кукуруза.

Кукуруза мае даволі тоўсты, (да 2-3 пальцаў таўшчыні), вузлаваты сьцебель, з шырокімі лістамі і зярнятамі, якія сядзяць у гэтак званых — пачатках, а самыя пачаткі завернуты, як-бы ў пакрывала, у тонкія лісткі.

Сакавіты, цукрасты сьцебель кукурузы напоўнены мягкаю сэрцавінаю і расьце ад 1 да $2^1/_2$ мэтраў вышыні. Тоўстыя і моцныя карэньні кукурузы глыбока і шырока разрастаюцца ў грунце, дзеля чаго часта кукуруза можа добра зносіць нават засуху.

Кукуруза не вымагае надта добрае зямлі: яна можа расьці ўсюды, хаця найлепш удаецца на суглiністых і супясчаных грунтох, толькі ня зносіць сырых балотных грунтоў, асабліва такіх, дзе застойваецца вада.

Кукуруза можа быць разводжана пасьля ўсялякіх расьлін: пасьля жыта, пшаніцы, бульбы, грэчкі. Яе можна сьмела сеяць на адным і тымжа месцы падрад некалькі гадоў. Найлепш кукуруза ўдаецца на сьвежым конскім гнаі, бо на штучным гнаі, апрача паташовых (калійных), яна не ўрадлівая. Кукуруза вымагае глыбокае апрацоўкі поля пад яе, дзеля чаго найлепш поле з восені ўзараць на 4-6 вяршкоў (20-30 сант.), а вясною можна толькі добра перабаранаваць і перад пасевам прыкачаць (вальцаваць).

Сеяць кукурузу найлепш радамі, дзеля чаго трэба прайсьці па полі значнікам і правясьці на $1\text{-}1^1/_2$ мэтра рады адзін ад аднаго, а пасьля прайсьці ізноў значнікам упоперак поля на $^1/_2$-1 мэтр і ў перакрэстках радоў класьці ў маленькія ямкі 2-5 зярнят, якія прыкрыць трохі зямлёю, што робіцца матыкаю, або нагою. Гэтакі спосаб дае магчымасьць чыста трымаць поле і часта абсыпаць кукурузу, што яна вельмі любіць. Кукуруза ня зносіць перасадкі, дзеля чаго адразу яе трэба сеяць, каб ня была загуста пасаджана. Калі хочуць мець раньнюю кукурузу, то расады яе стараюцца высаджваць у грунт з комам зямлі і не раскідаючы гэтага кому, тады расьліна зразу ідзе ў рост.

Першы раз абсыпаньне, або акучваньне кукурузы робяць, як расьлінкі вырастуць на якіх 20-30 сантымэтраў (5-6 вяршкоў), а другі раз абсыпаюць тыдні праз тры-чатыры. Палiўкі кукуруза зусім не вымагае, хіба ў занадта сухую вясну.

Дзеля разьвядзеньня на корм, кукурузу сеюць гусьцей, нават часта ў роскід. Сеяць трэба тады, калі мінуць начныя прымаразкі, бо кукуруза ня зносіць прымаразкаў, і пачынае прарастаць тады, калі ў паветры ня менш як 8-12° цяпла, а найлепш ідзе ўрост пры 15°-16° і вось тады яна дае расткі ўжо на 8-12 дзень.

Часамі. каб прысьпяшыць усходы, кукурузныя зярняты мочаць у вадзе ў працягу пары, але гэта можна рабіць тады, калі не апасаюцца, што пасеяўшы не настане засуха, бо іначай расткі могуць лёгка прысохнуць.

Ні адзін хлеб не дае столькі зярнят, як кукуруза: 120-200 пудоў з гэктару лічыцца нармальным ураджаем; сьцебляў пры гэтым бывае ад 200 да 400 пудоў, абёртачных лістоў з пачат-

камі якіх 20-40 пудоў, а самых пачаткаў 40-80 пуд., апрача таго ад пасынкаваньня і прарыўкі кукурузы, каб рэдка расла, можна мецъ 70-150 пудоў сена.

Пасеяная на зялёны корм, кукуруза можа дацъ ад адной да пяцёх тысяч і больш пудоў зялёнае масы, што можна прыраўняць да 300-1000 пудоў добрага лугавога сена. Кукуруза яшчэ добра і тым, што яна мала церпіць ад розных хвароб і жучкоў. Ад „галаўні“ яе асьцерагаюць тым, што зярняты перад пасевам мочаць у медным купарвасе (сіні камень), якога бяруць якіх 10 грамаў на адно вядро вады, чаго хапае на 10 пудоў насеньня, якое трымаюць гадзін 12-16 у гэнай вадзе.

Толькі першыя два тыдні пасевы кукурузы трэба пільнаваць ад воронаў, груганоў і іншых птушак, але і ад гэтае бяды можна даць раду: калі вымачыць насеньне **сьмярдзючым алеем аленьняга рогу або каменнавугальным дзёгцем**, то вароны зусім ня будуць кляваць зярнят. Гэта можна рабіць і з насеньнем гароху, пшаніцы і інш. — шкоды ня будзе, а птушкі ня клююць зярнят.

Зьбіраюць кукурузу тады, калі абёртачныя лісты падсохнуць, вісячыя з-пад абёрткаў ніткі завянуць, а зярняты хоць мягкія, але маюць ужо свой колер.

Пры разьвядзеньні кукурузы на корм, яе можна сеяць і ў роскід, толькі праз 10-12 дзён, як пакажуцца ўсходы — трэба прабаранаваць кукурузу ў 2-3 сьляды, ад чаго яна лепш ідзе ў рост.

Насеньня кукурузы трэба на адзін гектар ад 1 да 3 пудоў, глядзячы па гатунку і ў залежнасьці ад таго, як сеюць — радкамі ці ў роскід, бо і самае насеньне яе бывае рознае велічыні, ад 1/8 да 1/2 вяршка адно зярня.

Сартоў кукурузы даволі многа і пры гэтым трэба заўважыць, што яна яшчэ больш як жыта спасобна выроджвацца.

З гатункаў, якія надаюцца для халаднейшых мясцовасьцяў будуць: **„Грачова“**, **„Малахоўскі Карлік“** і інш.

Ёсьць гатунак вядомы пад назовам **„Конскі зуб“**, расьце вельмі высокая, мае зярняты падобныя на пярэднія конскія зубы, бывае белага і жоўтага колеру, яле на зярняты „Конскі зуб“ у нас ня можа пасьпяваць, за тое можа даць ураджай сьцёблаў і лісьцьця 2-5 тысяч пудоў з гектару.

На астатку трэба зазначыць, што многа ў запасе кукурузнае мукі ня трэба трымаць, бо яна хутка горкне, а малоць у меру патрэбы.

Вядомую **„мамалыгу“** робяць гэтак: кіпяцяць у кацялку ваду з сольлю і сыплюць памаленьку ў тую ваду кукурузную муку, якую абліваюць кіпятком, пасьля разрэзваюць на-крыж. Зьнімаюць з агню, мамешваюць, каб зрабілася роўнае цеста. Ставяць яшчэ на агонь, каб ўся вада выкіпела, пасьля выкідваюць на стол.

З кукурузнае мукі выходзяць гэтак-жа вельмі добрыя блінцы і крупы.

*Я. Х.*

---

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

# Як і чым корміцца расьліна.

*(Далейшы праця г).*

## Вада.

Вады патрабуюць расьліны больш, чымся іншых покармаў. Аблічана, што жыта зажывае ў працягу свайго жыцьця на адным квадратным мэтры блізка 500 гарцаў вады. Як кроў у чалавечым целе, так вада ў расьліне кружыць бяз устанку і праводзіць распушчаную спажыву па цэлай расьліне. Апрача гэтага, самая вада ёсьць кормам. Вада складаецца з двух чыньнікаў—з кіслароду і вадароду. Вада раскладаецца ў лісьцях расьлін на кіслард і вадарод; часьць кіслароду ідзе з лісьцяў у паветра, часьць астаецца ў расьліне.

Гэтая часьць кіслароду, якая асталася ў расьліне і вадарод лучыцца з вуглём, які, як ужо сказана ў папярэднім разьдзеле, астаўся ў лісьцях з вуглёвага квасу. З гэтага злучэньня кіслароду, вадароду і вугля паўстаюць розныя, вельмі важныя ў расьлінах целы, як напрыклад крахмал у зярнятах збожжаў і ў бульбе, цукер у цукровых буракох, кармовых і ў моркве, жыр у зёрнах рапаку, лёну і каноплях.

Усе гэтыя целы зьяўляюцца спажывамі для людзей і зьвяроў.

Колькасьць вады ў зямлі залежыць ад колькасьці падаючых дажджоў, якой спраўдзіць часта дакладна ня можна. У пэўнай аднак меры земляроб можа памагчы сабе і затрымаць ваду, дзякуючы чаму суша ня так шкодзіць збожжам. Пры гніцьці заворанага гною, пожні, лубіну, торфу, лясной падсьцілкі, творыцца ў зямлі так званая парахніца, з выгляду падобная до чарназёму. Парахніца мае тую ўласнасьць затрымліваньня вялікай колькасьці вады. Дасьледы паказалі:

| | | |
|---|---|---|
| 1 фунт пяску можа затрымаць у сабе вады | 1/4 | фунта, |
| 1 „ пясчана-глiністай зямлі | 1/2 | „ |
| 1 „ гліністай зямлі | 3/4 | „ |
| 1 „ парахніцы | 1 3/4 | „ |

З гэтага вынікае, што парахніца можа затрымаць у сабе вады ў 7 разоў болей, чым пясок, а ў 2 разы болей, чымся гліна.

Пясок найменш затрымоўвае ў сабе вады, дзеля гэтага на пясчанай зямлі засуха збожжам найболей шкодзіць.

Земляроб, які мае пясчаную зямлю, павінен старацца вытварыць на ёй парахніцу, якая забясьпечыць зямлю перад шыбкім высыханьнем.

## Азот.

Азот знаходзіцца ў розных палучэньнях, служачых за пажыву для людзей і жывёлы. Вельмі багатыя азотам зярняты гароху, вікі, лубіну, таксама яйкі, сыр і ўсялякае мяса; таму спажыва, прыгатаваная з гэтых прадуктаў, ёсьць вельмі спажыўнай і карыснай. Разам з кормам дастаецца азот у жывот жывёлы, служыць ёй за спажыву, а часьць нястраўленая адходзіць разам з калам у гной. У гнаі знаходзіцца азотная спажыва для гаспадарскіх расьлінаў.

У зямлі мала ўгноенай вельмі мала ёсьць азоту, а гэта таму, што, палучэньні, ў якіх знаходзіцца азот, лёгка расходзяцца ў паветры, або, распушчаюцца ў дажджавой вадзе і сплываюць у зямлю. З гэтага повду азот ёсьць найдара-

жэйшым, бо вельмі цяжкім да ўтрыманьня расьлінным кормам.

Кожны земляроб пэўна заўважыў, шты пры вывазцы конскага альбо авечага гною, паветра ў хляве напоўнена якімсьці грызучым вочы і душачым газовым целам.

Цела гэта завецца амоньякам, у ім знаходзіцца шмат азоту; азот, які знаходзіцца ў амоньяку, ўцякае з гною ў паветра і беспаваротна прападае для земляроба.

З гною, пакіненага на полі ў кучках, амоньяк усьцяж расходзіцца ў паветра, дзякуючы чаму такі гной траціць на вартасьці. Каб азоту ня страціць, трэба гной, зараз па вывязеньні на поле, раскідаць і загараць, выдзяляючыся тады з гною амоньяк застанецца ў зямлі.

Каб забясьпечыцца перад стратаю азоту ў хлявох і стайнях, трэба пасыпаць гной сухім торфам у колькасьці пары фунтаў на штуку жывёлы штодзень. Торф уцягвае ў сябе ўвесь аманьяк, выходзячы з гною, і такім спосабам можна забясьпечыцца ад страты гэтага найдаражэйшага расьліннага корму.

## ПЧАЛЯРСТВА.

### Пчаліныя хваробы.

(Гл. № 13 „Б. Д.").

*Ляксаўка* зьяўляецца менш небясьпечнаю хваробаю ад гнільцу, але гэтак сама яна можа прынясьці вялікую шкоду пчолкам, калі ёй у час не зарадзіць. На ляксаўку пчолкі хварэюць найбольш у канцы зімы і вясною; прыкметы гэтае хваробы такія: пчолкі забруджваюць вузу сваімі адходамі, гэтак сама вулей і іншыя часьці ў ім, прыкладам ляток — наагул тыя часьці вульля, дзе яны часьцей усяго прабываюць. Іхнія адходы бруднага колеру і адзначаюцца адумысным няпрыемным пахам. Самыя пчолкі рухаюцца надта паволі, як-бы нешта думаючы, на выгляд яны зусім слабыя, прыймаюць некую цёмна-бурую афарбоўку і выміраюць зусім хутка.

Прычынаю ляксаўкі трэба лічыць: незапячатаны і перашумеўшы ўжо мёд, часам доўгае сядзеньне бяз выхаду ў вульлі, калі што-небудзь, ці хто-небудзь іх трывожыць і застаўляець іх есьці шмат больш мёду, чымся яны заўсёды елі. Аб гэтым трэба памятаць пчаляру заўсёды; не хадзіць моцна і ня стукаць каля вульлёў часта без патрэбы. Сініцы гэтак сама шмат калі трывожаць пчолаў узіму і застаўляюць іх есьці многа мёду, нярэдка вызываючы ў іх ляксаўку.

Вясною 1927 году, у нас на пасецы захварэлі пчолкі на ляксаўку з гэткае прычыны: раньняю вясною зацьвілі ўжо ў нас некаторыя кветкі, як лотаць, мявушкі і інш., і дрэвы, як алешына, арэшына і др. Пчолкі надта хутка пайшлі зьбіраць з гэтых кветак і дрэваў пяргу (пылок), але вось, на табе! — аднэй ночы здарыўся моцны мароз, вада пазамярзала ў лужынках. Ад гэтага марозу пылок у кветак і дрэваў перамёрз, пчолкі на другі дзень хутка кінуліся да работы. Назьбіраўшы гэтага перамёрзшага ўжо пылку, прынясьлі яго ў вулей і, наеўшыся, усе да аднаго вульля захварэлі на ляксаўку; многа потым працы прышлося нам палажыць, каб іх збавіць ад гэтае хваробы, усе яны, аднак-жа, выздаравелі, але ўсё-ж такі застой на пасецы аказаўся даволі значны.

Гэтак сама ляксаўка вызываецца ў пчолак і вядзяністаю ежаю, якою прыходзіцца пчолкам карміцца позьняю восеньню, не запячатаўшы на зіму ўсіх сваіх запасаў. Сырасьць ад благое вэнтыляцыі вульлёў, гэтак сама можа выклікаць гэтую хваробу. Калі ўсё добра прыгатоўлена да зімоўкі пчолак, калі ўсе чарачкі з мёдам запячатаныя і калі пчол якнайменш зімою трывожаць, дык ляксаўкі ад зімоўкі спадзявацца нечага. Другая рэч, што яна вясною, як я ўжо казаў, можа здарыцца ад шмат якіх прычынаў.

Як пчолкі захварэюць ляксаўкаю; дык на першы ратунак трэба зьмяніць вулей і дно, а забруджаную вузу і рамкі замяніць чыстымі. Пчолак трэба падкормліваць ледзянцовым цукрам (той-жа лякарскі сыроп, які я апісваў пры лячэньні гнільцу), але ўжо ў застыўшым стане, альбо трэба ставіць ім вузу з запячатаным мёдам; трэба праветрываць часьценька вулей і трывожыць яго памагчымасьці найменей. Гняздо трэба зьменшыць да такога разьмеру, каб пчолкі маглі пакрыць сабою ўсе рамкі. Рэшту месца і дно пазатыкаць мякінаю і ўберагчы вулей ад холаду.

*Кіпрская* парода (гатунак пчол) — найболей хварэець на ляксаўку, дзеля таго, што яны вылятаюць у розную пагоду і да самае позьняе восені не запячатваюць чарачак з мёдам. На зіму дзеля гэтага трэба ім устаўляць рамкі з запячатаным мёдам. Запячатаны мёд тым не шкадлівы і не вызываець у пчолак ляксаўкі, што ён ухаронены пакрыўкаю ад доступу паветра, злашча вільготнага, а гэтым самым і ад фэрмэнтацыі, якая робіць з перашумеўшага мёду кіслату. Ахоўвае мёд ад фэрмэнтацыі, яшчэ і тое, што пчолкі, запячатваючы чарачку, упускаюць туды трошкі яду са свайго джала, які яд і ахоўвае мёд ад фэрмэнтацыі.

*Пчаляр.*

## Хроніка.

**Плата пэнсіяў праваслаўнаму духавенству.** Ад 1-га красавіка г.г. адміністрацыйныя ўлады першае інстанцыі (старосты) будуць выплачваць пэнсіі праваслаўным сьвяшчэньнікам. Велічыня пэнсіі залежыць ад даходнасьці парафіі.

**Арышт б. заступніка каманданта паліцыі Віленска-Троцкага павету.** Газэты падаюць, што па загаду сьледчага судзьдзі арыштаваны і пасаджаны ў турму былы падкамісар і заступнік павятовага каманданта паліцыі на Віленска-Троцкі павет. Арыштаванаму закідаецца сфальшаваньне дакуманту.

**1700 проціадміністрацыйных праступкаў.** У мінулым сакавіку месяцы ў Вільні пацягнута да карнай адказнасьці 1700 асобаў за розныя проціадміністрацыйныя праступкі.

**Забарона ваенным хадзіць у г. зв. „Беларускую Хатку".** Камандант віленскага гарнізону і камандзіры асобных вайсковых аддзелаў выдалі прыказ, у якім строга забаронена ўсім вайсковым — афіцэрам і салдатам — бываць у г. зв. „Беларускай хатцы", дзе штодня вядзецца ігра ў лётто.

**Краязнаўчы зьезд моладзі ў Вільні.** 13 красавіка

распачаўся ў Вільні 2-гі гадавы зьезд дэлегатаў краязнаўчых гурткоў школьнае моладзі з цэлае Польшчы. На зьезд прыбыло 300 чалавек. 14 красавіка адбудзецца адчыненьне краязнаўчае выстаўкі, якая зьвязана са зьездам.

**Малачарні ў Сакольшчыне.** Павятовы Соймік у Саколцы прызначыў 29.000 зл. на арганізацыю гадаўлянае фэрмы малочных кароў у Саколцы і 16.450 зл. на арганізацыю малачарняў у Саколцы, Сухаволі, Янаве і Дуброве.

# Апошнія навіны.

**Польшча. Міністар заграмічных справаў Залескі ў Рыме.** Міністар заграмічных справаў Залескі выехаў некалькі дзён таму ў Італію. Міністар Залескі выехаў у Рым, дзе мае адбыцца важная нарада з італьянксім прэм'ерам міністраў Муссоліні.

**Выпадак у савецкім пасольстве ў Варшаве.** 6 красавіка 1928 году зьявіўся ў Савецкае пасольства ў Варшаве нейкі мужчына, які нэрвова дапамінаўся пабачаньня з савецкім паслом у Варшаве Багамолавым. Аднак пасла тады ня было, і ён пачаў гаварыць з адным з высокіх урадоўцаў пасольства. Незнаёмы мужчына заявіў, што яму вядома, што падрыхтоўваецца замах на савецкага пасла. Быццам расейская монархічная арганізацыя пастанавіла Багамолава забіць. Пры гэтым незнаёмы мужчына даў зразумець, што ён знаходзіцца у цяжкіх матар'яльных абставінах, словам дапамінаўся, каб яму за гэту вестку заплаціць.

Гэта навяло на думку савецкага ўрадоўца, што мае справу з шантажом. Паведамленая паліцыя арыштавала незнаёмага мужчыну. Перавезены ў паліцэйскае упраўленьне мужчына аказаўся жанчынай з Вільні па прозьвішчу Галіна Гоппэн-Валентыновіч. Была яна адзета ў ваенны нямецкі шынэль, боты і польскую ваенную шапку. Яна аказалася ненармальнай і хворай на гістэрыю. Некаторыя варшаўскія газэты напісалі, быццам Гоппэн-Валентыновіч хацела забіць пасла Багамолава. Аднак гэта аказалася няпраўдай.

**Чэхаславакія.** Польска-чэхаславацкія перагаворы дабягаюць да канца. Дагавор будзе хутка заключаны.

**Нямеччына.** Камісар заграмічных справаў Чычэрын заявіў германскаму паслу ў Саветах Брокдорф-Ранцау, што суд над арыштаванымі ў данецкім вугальным раёне адбудзецца ў палове красавіка ў Маскве. Арыштаваныя нямецкія інжынеры будуць перавезены ў Маскву.

**Раскол у камуністычнай нямецкай партыі.** У Нямеччыне заснованы нямецкі саюз троцкістых. Троцкістыя знаходзяцца ў опозыцыі да Сталіна і сталінцаў. Саюз троцкістых пры выбарах выстаўляе свой асобны сьпісак.

**Румынія. Міністэрскі крызыс.** Міністар заграмічных справаў Румыніі Тытулеску падаўся ў адстаўку, паміма спрацівеў прэм'ера міністраў Братыяну. Прычынай адстаўкі зьяўляюцца вострыя выступленьні румынскай опозыцыі.

**Японія. Рэпрэсіі у Японіі.** Японскі ўрад прыступіў да ліквідацыі радыкальнай палітычнай партыі „Рапотэ“ па повадў яе антыўрадовай акцыі.

**Грэцыя. Прыгатоўка да рэвалюцыі.** Аўстрыйскія газэты падаюць быццам у Грэцыі чакаюць камуністычнага перавароту. Прадбачыцца окупацыя югаславянскімі войскамі некаторых грэцкіх партоў.

**Прыезд афганістанскага караля Аманулляха ў Варшаву.** З Лёндану паведамляюць, што афганістанскі кароль Аманулях у панядзелак 9 красавіка выехаў у Бэрлін, дзе прабудзе некалькі дзён, пасьля выедзе ў Варшаву.

# Аб усім патроху.

### Дзе людзі найдаўжэй жывуць?

Аказваецца, што ў Боўгарыі, Турэччыне, Босьніі і ў Гішпаніі. Асабліва Боўгарыя можа пахваліцца тым, што там людзі дажываюць найстарэйшага веку. Як прычыну доўгага веку Баўгараў падаюць знаўцы тое, што яны адпаведна аджыўляюцца, а іменна ядуць толькі здаровыя харчы, як хлеб, ярыну і кіслае малако.

За Баўгарыяй ідзе Турэччына, дзе нядаўна памёр 145 гадовы чалавек Кара-Огу. У Гішпаніі астатняя конскрыпцыя выказала 357 людзёў, якія маюць больш як 100 гадоў.



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie. вул. Сьв. Анны 3